ВІЗІТЫ



*Ягор Строеў і Сямён Шарэцкі дэманструюць "мужчынскае шчасце" ў Авальнай зале беларускага парламента. Прыкладна ў гэты самы час (22 сакавіка) Лукашэнка падобным чынам горача "інтэграваўся" з Ельцыным, але нашага фотакарэспандэнта там, на жаль, не было.*

# Строеў расцалаваў Шарэцкага і выступіў перад дэпутатамі

*Расійскі госць у беларускім парламенце*

Ва ўступным слове спікер беларускага парламента Сямён Шарэцкі сказаў, што яму асабліва прыемна канстатаваць: міжнародныя кантакты новага Вярхоўнага Савета пачынаюцца з сустрэч са сваімі расійскімі калегамі. "Гэта вельмі сімвалічная з'ява, — падкрэсліў Шарэцкі, — і калі б мы паступілі інакш, я думаю, народы як Расіі, так і Беларусі нас бы не зразумелі".

Ягор Строеў заўважыў, што ён цалкам падзяляе пункт гледжання кіраўніка Вярхоўнага Савета Беларусі, і, акрамя таго, яму наогул вельмі па душы такі прыём, бо "гэта — сустрэча двух сялян, двух людзей, якія ведаюць цану хлебу".

У сваёй прамове перад дэпутатамі Ягор Строеў заявіў, што ў рускіх і беларусаў ёсць усе падставы лічыць сябе братамі. Ягоная ўпэўненасць грунтуецца на тым, што "ў нашых народаў агульная гісторыя, агульныя магілы продкаў". Кіраўнік расійскай дэлегацыі перакананы: само жыццё паказала — ніхто ад развалу СССР не выйграў. Аднак, і на гэта Ягор Сямёнавіч звярнуў асаблівую ўвагу, трэба быць рэалістамі — у былы СССР ужо не вярнуцца. Але сп.Строеў упэўнены, што народы Беларусі і Расіі абавязкова інтэгруюцца "на разумных пачатках". Аднак рабіць гэта сёння гвалтоўным шляхам ні ў якім разе нельга, сказаў Строеў. Гэта не тое пытанне, якое можна вырашаць націскам кнопак або галасаваннем рук. Пры гэтым кіраўнік расійскай дэлегацыі нагадаў вядомую мудрасць, што не заўсёды прамая дарога бывае самай кароткай.

**Уладзімір ГЛОД**
*БелаПАН*

ЭКАНОМІКА

# Долар пайшоў уверх

**На мінулым тыдні насельніцтва Беларусі стала сведкам інтэнсіўнага росту курсаў наяўнага долара і нямецкай маркі ў абменных пунктах.**

Узровень куплі-продажу долара вырас у сярэднім з 12.200-12.350 рублёў да 12.300-12.550 рублёў, нямецкай маркі — з 8.150-8.400 да 8.270-8.550 рублёў.

Рост каціровак спецыялісты тлумачаць некалькімі прычынамі. Па-першае, з мэтай папярэдзіць забастоўкі рабочых урад прыняў экстраныя меры па выдачы заробатнай платы. Камерцыйным банкам было "рэкамендавана" даць прадпрыемствам крэдыты на гэтыя мэты, што яны і зрабілі. Па-другое, пачалося фінансаванне пасяўной кампаніі, на якую плануецца выдзеліць каля 1,5 трлн. рублёў. Актывізавалася і крэдытаванне жыллёвага будаўніцтва. Такім чынам, колькасць беларускіх грошай на рынку імкліва павялічылася, што суправаджалася актыўным ростам інфляцыйных чаканняў, якія пацягнулі за сабою рост курсу валюты ў абменных пунктах.

У апошні час, верагодна, пэўную ролю адыграла і ўзмацненне інтэграцыйных працэсаў з Расіяй. Калі планы А.Лукашэнкі здзейсняцца, то беларуская нацыянальная валюта хутчэй за ўсё спыніць сваё існаванне. А пры такім развіцці падзей цяжка чакаць вялікага попыту на беларускі рубель, і яго каціроўкі пойдуць уніз.

**А.САДОЎСКІ**

# Назад, у вёску?

**Кабінет міністраў Беларусі прыняў пастанову, згодна з якой лес для будаўніцтва жылля ў сельскай мясцовасці будзе прадавацца грамадзянам (якія маюць права на жыллёвыя субсідыі) з 70-працэнтнай скідкай.**

Нягледзячы на тое, што, па словах прэм'ера М.Чыгіра, бюджэт недаатрымае каля 30 мільярдаў рублёў, урад вырашыў пайсці на гэта, спадзеючыся, што стварэнне ўмоваў для будаўніцтва жылля на вёсцы палепшыць сітуацыю з працоўнай сілай у сельскай гаспадарцы. Магчыма, частка былых сельскіх жыхароў, што страцілі работу і расчараваліся ў перспектывах гарадскога жыцця, вернецца ў родныя мясціны, каб ажывіць занядбаную вёску.

**Алесь САДОЎСКІ**

# «Адпускаю вам грахі вашы...»

**Прэзідэнт Лукашэнка распарадзіўся спісаць "грахі" трыццаці дзяржаўным прадпрыемствам, якія павінны заплаціць у бюджэт 78,5 мільярдаў рублёў.**

Такую суму налічыла "грэшнікам" прэзідэнцкая служба кантролю за парушэнні ў фінансавай і гаспадарчай дзейнасці. Аднак "бацька" рассудзіў мудра: які сэнс спаганяць грошы з дзяржаўных "дзетак", калі заўтра ўсё адно давядзецца карміць іх з бюджэту. А той факт, што, ў выніку гэтай "амністыі" праца шматлікай арміі кантралёраў аказалася марнай, не павінен расчароўваць службу кантролю. Рэч у тым, што акрамя дзяржаўных, выяўлены таксама недзяржаўныя "грэшнікі", з якімі кантралёры павінны разабрацца "па ўсёй строгасці закона". Гэтая гісторыя ў чарговы раз пацвярджае, што закон мае ў нас выключна адраснае дзеянне.

**Уладзімір ХОЛАД**

# Банкірам далі зразумець...

**Камерцыйныя банкі, якія па "рэкамендацыі" прэзідэнта далі ў сакавіку крэдыты прадпрыемствам на пакрыццё запазычанасці па заробках, атрымалі тлумачэнні, з якіх вынікае, што сваіх грошай назад яны ніколі не атрымаюць.**

Нагадаю, што Кабінет міністраў, прымушаючы камерцыйныя банкі даць заводам грошы, абяцаў забяспечыць першачарговае вяртанне крэдытаў. Была прынятая спецыяльная пастанова, якая загадвала прадпрыемствам пагасіць запазычанасці ў першую чаргу. Але цяпер абяцанні ўжо забытыя і банкірам прыгадалі ранейшы ўказ прэзідэнта, які абавязвае заводы спачатку разлічвацца з рабочымі ў памерах мінімальнага спажывецкага бюджэту на кожнага члена сям'і. Паколькі большасць з заводаў-даўжнікоў амаль не працуе, то чакаць значных паступленняў на іх рахункі не даводзіцца, што азначае: банкам ніколі не дачакацца сваёй чаргі на вяртанне грошай.

У выніку да банкрутаў-прадпрыемстваў могуць далучыцца банкруты-банкі. "Нам не пратрымацца больш за палову года, — сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ адказны супрацоўнік аднаго з банкаў, які пад прымусам прэзідэнта пазычыў Мінскаму гадзіннікаваму заводу 3,5 мільярда рублёў. — Завод ужо мае 60 мільярдаў даўгоў, і яму не разлічыцца. І тады да некалькіх тысячаў беспрацоўных МГЗ далучыцца і тысяча беспрацоўных нашага банка, што прывядзе да краху соцень вытворчых і камерцыйных структураў, якія трымаюць у нас свае грошы".

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

ІНЦЫДЭНТЫ

# Газ у адказ

**24 сакавіка падчас разгону дэманстрацыі каля Тэлерадыёцэнтра ў Мінску некаторыя спецназаўцы выкарыстоўвалі газ "Черемуха". Ёсць пацярпелыя.**

Напрыклад, дэпутату Мінскага гарадскога савета Аляксандру Драніцкаму брызнулі газам у вочы, калі ён паспрабаваў уступіць у размову з кіраўніком атрада спецназа. Хвілінай раней нехта са спецназаўцаў стукнуў дэпутата па галаве дубінкай, а потым яго адштурхнулі з тратуара (гэта адбывалася, калі ўжо скончыўся мітынг каля тэлецэнтра, і людзі выходзілі на праспект Скарыны, а за імі ішлі спецназаўцы). "Я паспрабаваў высветліць, хто кіруе падраздзяленнем, якое збівае людзей, — расказвае А.Драніцкі. — Спачатку паказаў ім сваё пасведчанне, якое яны хацелі забраць, а потым брызнулі мне ў вочы "Черемухай".

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Начны візіт амона ў «падазронае месца»

*Скандальны выпадак здарыўся ў Магілёве*

Пасярод ночы атрад амонаўцаў уварваўся ў інтэрнат, дзе жывуць супрацоўнікі магілёўскай абласной філармоніі. Узброеныя аўтаматамі, у бронежылетах і масках, амонаўцы прымушалі заспаных жыльцоў выбягаць (у чым спалі) на калідор і станавіцца тварам да сцяны, рукамі за спіну. Правёўшы пакоі, амонаўцы літасціва дазвалялі гаспадарам вяртацца ў свае ложкі даглядаць перарваныя сны.

Карэспандэнт СВАБОДЫ высветліў у прэс-цэнтры абласной міліцыі, што жыхары інтэрната сутыкнуліся з аперацыяй па выяўленні "лиц кавказской национальности", якія могуць незаконна знаходзіцца ў гэтым інтэрнаце. Як патлумачылі ў міліцыі, амонаўцы дзейнічалі на падставе загада міністра ўнутраных спраў, які нібыта дазваляе работнікам праваахоўных органаў пры наяўнасці нейкіх падазрэнняў наведваць жылыя памяшканні без дазволу іхніх жыхароў.

Раённы пракурор сказаў мне, што санкцыяў на ўрыванне міліцыі ён не даваў, пра здарэнне ў інтэрнаце чуе ўпершыню, але рэагаваць на гэта не будзе. Маўляў, калі самі жыхары звернуцца ў пракуратуру, тады паглядзім.

А пікантнасць сітуацыі ў тым, што гэты інтэрнат належыць міліцэйскаму таварыству "Дынама", пакоі ў якім арандуе філармонія. Таму вельмі дзіўна, што ведамасны будынак МУС лічыцца "падазроным месцам".

І яшчэ такая акалічнасць. Падобны выпадак, як паведамілі жыхары інтэрната, ужо здараўся ў жніўні мінулага году. Тады, як і цяпер, у "падазроным" інтэрнаце нікога не знайшлі. Але да пракурора таксама ніхто не звяртаўся: "мы баімся, што нас могуць выселіць з інтэрната".

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

РЭЛІГІЯ

# Урад вырашыў спыніць уплыў «дэструктыўных сектаў»

**Дзяржаўны камітэт па друку накіраваў у беларускія друкарні ліст "Аб веравучэннях і дэструктыўных сектах".**

У ім адзначаецца, што *"з мэтай прадухілення негатыўнага ўплыву дэструктыўных сектаў на насельніцтва Беларусі выдавецтвам, выдавецкім арганізацыям і дзяржаўным прадпрыемствам забараняецца прымаць да вытворчасці навукова-папулярную і іншую літаратуру аб веравучэннях без заключэння экспертнай камісіі пры Савеце па справах рэлігій. Гэтае патрабаванне лічыць адной з умоваў заняцця выдавецкай дзейнасцю".* Пісьмо падпісаў намеснік міністра Станіслаў Нічыпаровіч.

Старшыня савета па справах рэлігій Аляксей Жыльскі сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ, што нічога не ведае пра гэтае распараджэнне і не мае да яго ніякага дачынення. Такая акалічнасць вымусіла нас правесці невялікае расследаванне.

Як высветлілася, сам прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір загадаў распачаць барацьбу з дэструктыўнымі сектамі. У міністэрствы разасланы план мерапрыемстваў "па спыненні ўплыву" дэструктыўных сектаў на насельніцтва Беларусі. Вось некаторыя пункты з гэтага дакумента.

*"Прыняць меры па спыненні дзейнасці паслядоўнікаў Вялікага белага брацтва, АУМ Сінрыкё, Багародзічнага цэнтра, Лігі духоўнага адраджэння Санатана Дхарма, Царквы апошняга запавету, Сям'і, сатаністаў. Абрываць спробы правядзення несанкцыянаваных мерапрыемстваў і процізаконнай дзейнасці замежных місіянераў, а таксама распаўсюджанне ўнеўстаноўленых месцах рэлігійнай літаратуры.*

*Забяспечыць спыненне функцыянавання грамадскіх аб'яднанняў, якія займаюцца рэлігійнай дзейнасцю, што былі зарэгістраваныя міністэрствам юстыцыі, аблвыканкамамі, Мінскім гарвыканкамам і не прайшлі перарэгістрацыі.*

*Вывучыць абгрунтаванасць рэгістрацыі такіх грамадскіх аб'яднанняў, як студэнцкая асацыяцыя "САРП", рэспубліканскі цэнтр "Дыянетыка", рэспубліканская арганізацыя "Цэнтр міру Шры Чынмоя", "Брахма кумарыс" і ім падобныя, якія фактычна займаюцца рэлігійнай дзейнасцю, і вырашыць пытанне пра іх далейшую праваздольнасць.*

*Не дапускаць прапаганды і рэкламавання ў СМІ веравучэнняў рэлігійных арганізацый, статуты якіх не зарэгістраваныя, а таксама грамадскіх арганізацый, якія займаюцца рэлігійнай дзейнасцю.*

*Распрацаваць метадычныя рэкамендацыі для выкладчыкаў па правядзенні пазакласных мерапрыемстваў па выкрыццю дэструктыўных сектаў".*

Пагрозлівы тон плану мерапрыемстваў узмацняецца загадам унесці дапаўненні ў дзеючае заканадаўства, а таксама ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях і Крымінальны кодэкс. Змагацца з сектамі павінны міністэрствы юстыцыі, унутраных справаў, аховы здароўя, тэлерадыёкампанія і аблвыканкамы. Пры ўрадавым Савеце па справах рэлігій мяркуецца стварыць пастаянную экспертную камісію для вызначэння адпаведнасці веравучэнняў і дзейнасці рэлігійных арганізацый Канстытуцыі і заканадаўству Беларусі.

Як паведамілі карэспандэнту СВАБОДЫ ў Савеце па справах рэлігій, "дэструктыўныя секты ў асноўным маюць амерыканскае і заходнееўрапейскае паходжанне. Многія з іх існуюць напаўпадпольна і носяць антыграмадскі характар. Ёсць секты і расійскага паходжання, як, напрыклад, антыпраслаўны "Багародзічны цэнтр".

План барацьбы з дэструктыўнымі сектамі Кабінет міністраў прымеркаваў выканаць на працягу гэтага года. Практычна ўлады апускаюць шлагбаўм перад новымі і нетрадыцыйнымі веравучэннямі на шляху ў Беларусь.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

Владимир ПОДГОЛ

# Скажи мне, кто твой враг, и я скажу – все ли у тебя дома...

(Начало материала в №№ 20-21)

## Война под крышами

Почему же сегодня 38% граждан (Л-рейтинг) не могут жить без врагов? С детства их любимой игрой была война. Их пичкали фильмами про войну. Вся школьная история представляла собой череду войн. Их врагами были все эксплуататоры, начиная от рабовладельцев и кончая кооперативами, все партии (кроме одной), все науки, которые на Западе были развиты лучше, чем у нас, и т.д.

Во время перестройки, которая обернулась для многих крахом надежд, врагами побывали империя СССР со всеми ее вождями и органами, а также демократы с их рыночными представителями.

В головах людей произошла ментальная революция, или, выражаясь на сленге, "крыша поехала". Они потеряли веру практически во все социальные идолы и ценности, которые предлагали политические организации или руководители власти. В менталитете людей стали доминировать слои из языческого прошлого с ожиданиями чуда и суперидола, который может все. Усиливалась и ненависть к ожидаемым врагам, которые обязательно будут препятствовать как появлению суперидола, так и сотворению им чудес.

Таким образом в конце XX столетия Беларусь оказалась готовой выбрать президентом человека с уникальными психологическими свойствами и моральными качествами. Но чтобы победить, он, как минимум, должен был обладать способностью внушать с телеэкрана представление о себе как о чудотворце.

## Русский транзит

Умирая от чернобыльской смерти, мучаясь от нищеты и социальной несправедливости, переживая бессилие, беспомощность, а часто и голод, наши люди оказались посаженными на информационно-наркотическую иглу — телеканал. Через него людям вводят сейчас новый — объединительный — наркотик, который вновь пробуждает в них силу и надежду. Теперь они уже ожидают чуда от славянского союза, которого "еще свет не видел".

К тому же граждане Беларуси оказались прочно привязанными к российской телекапельнице. Через нее на мозги наших сограждан капает духовное обезболивание от войны в Чечне. Она постепенно интерпретируется как война славян против мусульман. А перед этим нас успешно приучили к мысли, что в Югославии воюют хорошие славяне-сербы против врагов-католиков и мусульман. При этом скрывали, что и католики-хорваты, и боснийцы-мусульмане — все славяне! Однако славяно-фашизм потому и фашизм, что его идеологи ищут более чистую, более славянскую кровь, которую, по их мнению, лучше всего очищало православие.

Обезболивание от войны готовит лу-публику к тому моменту, когда в знак протеста против слияния Беларуси и России оппозиция выйдет на площади и вождь-шаман прокричит с телеэкрана: "Казнить, или..." И лупублика дружно, как во время боев гладиаторов, опустит большие пальцы вниз. И славянской кровью обагрится асфальт, а сапоги с рифленой подошвой отпечатают на нем орнамент лукашистского флага.

Наступила эра лукашизма. Они идут к власти через телеэкран, даром внушения пробуждая пещерные инстинкты, разрушая человеческие ценности. **Новые славянские** не могут строить, созидать, творить, пробуждать в людях творческое начало. У них нет знаний, чтобы понять, что Беларусь — потенциально богатая страна. У них нет культуры, чтобы по достоинству оценить исторический интеллектуальный потенциал белорусов. У них нет настоящей мужской силы и воли, чтобы почувствовать желание и возможность вывести Беларусь в число передовых стран мира. Новые славянские могут только потреблять, распределять, властвовать. Гении социальных иллюзий, создатели мифов к началу XXI столетия готовят всему человечеству славяно-объединительный ритуал, который может перерасти в **третью мировую войну**. Они обманывают себя и других тем, что, объединившись, станут сильнее.

Аналогичным образом создавалась империя СССР. Все, кто были против объединения или, по крайней мере, работали на развитие наций, записывались во враги и уничтожались. Те, кто мешал мировому господству, также записывались во враги. Вторая мировая война по сути дела и была борьбой за господство двух фашистских систем.

Сценарий третьей мировой просматривается уже сегодня. Если славяно-объединительный процесс пойдет, то начнутся "зачистки" славянских территорий от инородцев и не совсем чистых славян (подпорченных, например, католицизмом). Затем мы получим антиславянский терроризм. В наших домах, на улицах, в школах зазвучат взрывы, выстрелы. Естественно, возникнет необходимость выкорчевывать антиславянский терроризм вместе со странами, которые прячут террористов...

## Отверженные

Какой же фильм нужно снять и показать нашим людям, чтобы вернуть им человеческое сознание? Как проветрить мозги наших соотечественников от лукавого дурмана? Как научить людей, потерявших веру в свои силы, верить и любить?

Призывать людей строить гражданское общество? Но лу-публика, если мы говорим "гражданин", подразумевает "начальник" и "пройдемте". А у многих отсидевших и их родственников "строить гражданское общество" означает места не столь отдаленные и лучше бы от них подальше.

Звать к демократии? А! Это те, которые все развалили и всех ограбили! Дерьмократы проклятые!

Предлагать свободу? Для них это значит, где все клевещут, да еще разгул преступности с коррупцией, прихватизацией, спекуляцией.

"Бомбить" Лукашенко (не предлагая ничего равнозначного взамен)? Значит, повторить историю с Кебичем. Ведь за спиной у **славяно-фашизма** стоит его родной брат **коммуно-фашизм**, который в мозгах у лу-публики воскрешен, амнистирован и реабилитирован за дешевую водку и колбасу, за гарантированную пайку, даже если ты пьянь, рвань, дрянь.

## Домашняя революция

Безусловно, необходимо нести идею гражданского общества в прозомбированные мозги. И национальную идею, и демократию, и свободу идолоизировать также следует, не жалея живота своего (и через живот, главным образом, и проводить в мозги). Но этого мало.

Думаю, пока у людей есть дом и семья, пока они стремятся получить свой кусочек земли, вырастить на нем урожай и выстроить свой домик, то в них есть человеческая суть и возможность понять "домашний язык". Людям только нужно помочь создать в голове очертания нашего дома, и тогда они смогут отличить Беларусь от коридора или пристройки. Для всех, кто сегодня исповедует демократические ценности, кто является противником тоталитаризма в любой его форме, есть возможность повлиять на сознание лупублики, которая на выборах решает судьбу каждого из нас. Следует исподволь начать готовить в мозгах домашние революции. К президентским выборам сформировать в сознании избирателей домашнего идола-**хозяина**. Сбор подписей по выдвижению кандидата в президенты и предвыборную кампанию провести в форме домашнего референдума по главному вопросу: Вы за то, чтобы жить в **собственном доме Беларусь**, или за то, чтобы жить в коридоре или пристройке?

И те, кто выскажется за собственный дом, будут достойны стать кандидатами в президенты и во время предвыборной кампании доказывать, что владеют лучшими средствами, методами и командой для управления страной. А кандидата в президенты Лукашенко нужно спросить: **"Кто же твой враг?"** Не твой ли родной дом и люди с их языком и культурой, которые жили и живут здесь тысячелетия? Нужно будет обязательно задать и прямой вопрос: **"Все ли у тебя дома?"**

## Апокалипсис

Когда-то и Шушкевич, и Фронт упустили шанс, предоставленный историей. Один не захотел пачкаться, вторые не желали видеть во главе государства рабочего. В то время нужно было разрушать. Сегодня история предоставила нам еще один шанс, на этот раз созидательный. Сценарии будущего наших детей пишутся, репетируются и проигрываются сегодня разными политиками. Одни готовят сценарии боевиков, другие — мыльных опер, третьи — строительства современного европейского дома. Чей сценарий победит — зависит от сценаристов, режиссеров, актеров и зрителей. Кто знает — будет ли еще один шанс? Сможем ли мы сегодня убедить людей использовать последнюю возможность начать вместе строить **наш дом Беларусь** и сплотиться для его защиты от тех, у кого не все дома?

Того же, кто не понимает, о чем речь идет, или по каким-либо причинам не может принять созидательную идею, я прошу представить, какие фильмы будут смотреть в начале XXI века наши дети и внуки, а также ваши (Лукашенко с компанией) дети и внуки. Может быть, фильмы про войну? Может, про любовь? А может, сидя в противогазах на цинковых гробах своих отцов, они будут смотреть прямую трансляцию мирового апокалипсиса, распевая гимн лу-публики "Я на тебе, как на войне, а на войне, как на тебе?", отбивая ритм песни прикладом автомата по цинковому ящику! Слышите этот звук? Нет? Тогда помолчите пару минут и прислушайтесь, может, услышите удары своего сердца. Оно бьется так же, как и у неславян, и выталкивает кровь такого же цвета. Слышите, оно бьется у нормальных людей чаще и чаще, предчувствуя, что наследники Гитлера вновь возводят фашизм на этот раз на славянский пьедестал, строят планы ритуального славянского кровопускания для слияния-объединения.

Для тех политиков и президентов, которые ничего этого не видят, не слышат или не могут представить; для тех, кто не понимает, что **врагом** для них стала сама **жизнь** и всякие проявления **любви** к жизни; в общем, для тех, у кого **не все дома**, — пора кончать спектакль, уходить с телеэкрана: кому лечиться, а кому просто домой — к маме, жене, детям. Даже если ты президент.

А телеэкран следует предоставить тем, кто сможет научить людей любить и созидать, уважать и творить, верить в себя и надеяться на свои силы. И тогда мы обязательно построим богатый и красивый **наш дом Беларусь**.

*Сведения об авторе:*

*Владимир Подгол, 43 года, доцент, кандидат философских наук.*

*Основные направления научных исследований: посттоталитарное развитие государств; тоталитарный менталитет и его трансформации; технологии зомбирования средствами массовой информации; технологии предвыборной борьбы.*



**РЕЗОНАНС**

# Новый союз: взгляд из Москвы

Граждане Беларуси и России в последнее время находятся на голодном информационном пайке относительно содержания документов, которые подписываются или готовятся к подписанию Ельциным и Лукашенко. Так было с "нулевым вариантом" по списанию долгов (после которого мы получили ноль информации), так происходит и перед новым подписанием интеграционных документов. Пишу эти строки, а радио "Маяк" сообщает, что Лукашенко заявил о подписании 2-го апреля в Москве союзного договора с Россией.

Но вот совсем недавно произошло информационное событие, которое сделало более ясной и понятной политическую стратегию Лукашенко. Одна из газет президента, пропагандирующая взгляды СС (Славянского Собора), опубликовала статью А.Проханова из газеты "Завтра". В статье Проханов объяснил основные планы Лукашенко на ближайший исторический период и цели российско-белорусского союза. Очевидно, что в президентской газете никогда бы не появился материал с отклонениями от "генеральной линии", и посему гражданам Беларуси следует знать, какая же нам уготована роль.

Итак, какова же роль Беларуси по отношению к России в представлении президента Лукашенко и в пояснении Проханова? Цитирую: *"Белоруссия — это западный форпост России, щит, о который всегда разбивалось стальное копье, бьющее с Запада. Порой это копье пронзало насквозь Белоруссию и застревало в костном веществе России. Пронзенная Белоруссия истекала кровью, в то время как русские полки, русский потенциал собирались для ответного отпора"*.

С учетом того, что копья сегодня имеют ядерные наконечники, очевидно, что теперь нам уготована судьба не истекающих кровью, а сожженных в радиоактивном пожаре. О том, что это не фантазии, свидетельствуют официальные высказывания одного высокопоставленного белорусского воинского начальника о единой системе ПВО и о большой радости от возможности пострелять на российских полигонах. По их логике мы, видимо, должны быть просто счастливы, когда во время войны постреляют по нам!

Следующая позиция военной стратегии касается каждой нашей семьи. Речь о войне наших парней в горячих точках. Цитирую: *"Он (Лукашенко) говорит о войсках, у которых одна геополитическая оборонная задача, будь то мурманская военная база или брестское оборонное кольцо... Наша геополитическая общность определяется... тем, что мы контролируем бескрайние евразийские пространства"*. Очевидно, что заявления Лукашенко о том, что наши солдаты якобы не будут воевать — это для простаков.

Теперь о чувствах нашего президента. Цитирую: *"Лукашенко чувствует свою родную Белоруссию как отрезок огромного трансконтинентального пути, который начинается в центре Европы, на Балканах, и кончается на Аляске. И два наших народа — белорусский и русский — оседлали этот великий трансконтинентальный путь"*. Выражаясь проще, у президента ощущение, что он живет на дороге и как рэкетир контролирует ее и выделяет своих бойцов для других участков дороги.

А теперь о главном. Что же это за невиданный славянский союз? Оказывается, это конфедерация *"Югославии, Белоруссии и России"*.

Чью же волю выполняет президент? Цитирую: *"...он одновременно принадлежит России и русским, он принадлежит всему славянству"*.

А вот еще один секрет об отношении Лукашенко ко всяким законам юридическим и объективным. Цитирую: *"В Белоруссии является властной официальной "идеология" славянского иррационализма, позволяющего действовать вопреки вульгарным жестким законам прагматического мира"*.

Несколько штрихов о психике кумира: *"Он (Лукашенко) давал понять, что огромное сонмище врагов, окружающих его, грозит ему физическим истреблением"*. Тут уже нужны комментарии психиатра. Далее: *"Он понимает власть как некую миссию, как некое чудо, которое дано ему его нацией"*. Вот, оказывается, откуда у Титенкова мания все прибрать к рукам. Ведь Патрон, как выяснятся, уже нацию приватизировал, осталась мелочевка: какие-то дома, заводы...

И, наконец, политическое сравнение: *"...некоторые славянские художники и философы находят эмоциональное, психологическое сходство между Лукашенко и великим сербом Радаваном Караджичем"*. Как известно, этот политический близнец вскоре должен предстать перед международным судом за преступления против человечества, в частности за геноцид и концлагеря.

Такие штрихи вот к портрету Лукашенко появились в президентской газете.

А заметки эти я писал для тех, кто имеет иллюзии, будто Лукашенко "хороший, просто говорить не научился".

Владимир МАРИНИН

